ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 49 (2575)
ПЯТНІЦА
3
снежня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 6 кап.

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ БЫЛО Б ВОСЕМДЗЕСЯТ...

**Ён жа пражыў усяго дваццаць пяць. Але і за гэты кароткі час паспеў зрабіць столькі, што цяжка знайсці тую меру, якой можна было б вымераць яго ўклад у скарбніцу роднай культуры. Яго імя па праве стаіць поруч з імёнамі двух другіх волатаў нашага мастацкага слова— поруч з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта яны сталі ля вытокаў новай беларускай літаратуры.**

**Сёння яму было б восемдзесят...**

Матэрыялы, прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча, чытайце на стар. 4—5.





Мал. І. БІЛЕЦКАГА.

# ПЯТАМУ З'ЕЗДУ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНАГА АБ'ЯДНАННЯ

Дарагія таварышы!

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі горача вітае дэлегатаў і ўдзельнікаў Пятага з'езда Беларускага тэатральнага аб'яднання і ў вашай асобе — усіх работнікаў тэатральнага мастацтва рэспублікі.

Камуністычная партыя надае вялікае значэнне мастацтву тэатра як магутнаму сродку ідэйнага і эстэтычнага выхавання працоўных, які выконвае важную ролю ў фарміраванні марксісцка-ленінскага светапогляду савецкага чалавека, яго духоўнага свету і маральных перакананняў, у далучэнні шырокіх мас народа да багаццяў перадавой сацыялістычнай культуры.

Выключна вялікія і адказныя задачы паставіў перад савецкім мастацтвам гістарычны XXIV з'езд КПСС. Рэжысёры, акцёры і драматургі, усе дзеячы тэатральнага мастацтва рэспублікі закліка);ны сваёй творчасцю адлюстроўваць непаўторныя рысы сучаснасці, гераічную працу і духоўнае багацце савецкага чалавека, усталёўваць гістарычную справядлівасць і неўміручасць ідэй ленінізму. Усё творчае багацце тэатра, уся разнастайнасць мастацтва сацыялістычнага рэалізму павінна быць накіравана на фарміраванне ў нашых людзей высокіх маральна - палітычных якасцей, выхаванне палымянага савецкага патрыятызму і пралетарскага інтэрнацыяналізму, беззапаветнай адданасці камуністычным ідэалам.

Важнейшай задачай Беларускага тэатральнага аб'яднання з'яўляецца ўсямернае садзейнічанне няўхільнаму павышэнню ідэйна-мастацкага ўзроўню спектакляў, аказанне дапамогі тэатрам у правільным фарміраванні рэпертуару, далейшым росце прафесіянальнага майстэрства і ідэйна-тэарэтычнай падрыхтоўкі работнікаў тэатра, умацаванні сувязей майстроў сцэны з жыццём народа.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі жадае з'езду Беларускага тэатральнага аб'яднання паспяховай работы і выказвае цвёрдую ўпэўненасць у тым, што дзеячы тэатра, няўхільна кіруючыся прынцыпамі партыйнасці і народнасці савецкага мастацтва, будуць аддаваць усе сілы, талент і запал сваіх сэрцаў стварэнню новых буйных па думцы і яркіх па форме сцэнічных твораў, заклікаючых наш народ на новыя подзвігі і здзяйсненні ў камуністычным будаўніцтве.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.**



У прэзідыуме V з'езда Беларускага тэатральнага аб'яднання. Фота Ул. КРУКА.

# ДВА ДНІ З'ЕЗДА...

Два дні праходзіў у Мінску V з'езд Беларускага тэатральнага аб'яднання.

Прывітанне з'езду ад Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі зачытаў сакратар ЦК КПБ А. Аксёнаў.

Са справаздачным дакладам выступіла старшыня прэзідыума праўлення БТА народная артыстка СССР Л. Александроўская. Быў заслуханы даклад рэвізійнай камісіі, які зрабіў народны артыст БССР М. Яроменка. Паведамленне аб зменах у статуце БТА зачытаў заслужаны артыст БССР Я. Рамановіч. У спрэчках прынялі ўдзел народная артыстка БССР З. Браварская, заслужаны артыст БССР Ю. Сідараў, народны артыст СССР Л. Рахленка, народная артыстка РСФСР Л. Пушкарова, драматург А. Макаёнак, доктар мастацтвазнаўства Ул. Няфёд, народная артыстка БССР І. Савельева, кандыдат мастацтвазнаўства Ю. Чурко, галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Ул. Караткевіч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР галоўны рэжысёр Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа С. Казіміроўскі, народны артыст БССР Р. Янкоўскі, народны артыст БССР галоўны рэжысёр Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі Г. Волкаў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР А. Дадзішкіліяні, дырэктар Дзяржаўнага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі А. Вольскі, рэжысёр Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР В. Вярбоўская, заслужаны артыст БССР галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек А. Ляляўскі, галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Струнін, рэжысёр народнага тэатра вытворча-мэблевага аб'яднання г. Маладзечна Н. Васілеўскі, міністр культуры БССР Ю. Міхневіч, рэктар Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Э. Герасімовіч, крытык Г. Колас.

З'езд выбраў праўленне і рэвізійную камісію Беларускага тэатральнага аб'яднання. Старшынёй праўлення засталася народная артыстка СССР Л. Александроўская. У рабоце з'езда прынялі ўдзел сакратары ЦК КПБ А. Н. Аксёнаў, У. Ф. Міцкевіч, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Ф. Клімаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Я. Б. Парватаў, прадстаўнікі тэатральных таварыстваў саюзных рэспублік краіны, творчых саюзаў і арганізацый Беларусі.

**Падрабязную справаздачу са з'езда чытайце ў наступным нумары.**

# СВЯТА КНІГІ Ў ГАРНЯКОЎ

У Салігорску гарадская арганізацыя таварыства «Веды», аддзел культуры выканкома і палац культуры гарнякоў выпусцілі першы нумар вуснага часопіса «50 год Саюза ССР», прысвечаны Беларускай ССР.

Часопіс адкрыў выступленнем на тэму «Ленінскім курсам» другі сакратар РК КПБ М. Яфімчык, яго дапоўніў заслужаны настаўнік БССР І. Захарэнка гутаркай «Усё на карысць чалавеку», галоўны архітэктар горада У. Блахін расказаў пра перспектывы развіцця Салігорска ў дзевятай пяцігодцы. У выпуску часопіса прыняла ўдзел брыгада супрацоўнікаў «Літаратуры і мастацтва». Л. Прокша расказаў пра планы штотыднёвіка на наступны год, А. Мажэйка зрабіў даклад «Сувязі беларускай літаратуры з зарубежнымі», паэтэса В. Іпатава прачытала свае вершы.

У фае палаца культуры гарнякоў было праведзена «Свята беларускай кнігі» — бібліятэка палаца наладзіла выстаўку твораў нашых пісьменнікаў, кнігарні горада прадавалі навінкі мастацкай літаратуры. Адбыліся літаратурная вікторына і аўкцыён, а таксама конкурс аматараў мастацкага чытання. Пераможцам — Марыі Хамёнак, Галіне Лашук, Жанне Карага, Зінаідзе Крукавай і Наташы Галубовіч — уручаны памятныя прызы.

У заключэнне калектывы мастацкай самадзейнасці дома культуры будаўнікоў далі канцэрт.

У Белаазёрску сабраліся сельскія работнікі культуры прафсаюзаў Брэсцкай, Гродзенскай і Мінскай абласцей. Удзельнікам семінара былі прачытаны лекцыі па пытаннях музыкі, тэатра, методыцы работы самадзейнага калектыву.

Гэтыя загадчыкі клубаў пазнаёміліся на семінары. Злева—направа: Антон Барашка, Лідзія Шуст, Ганна Дубоўская (Бярозаўскі раён), Ларыса Ус з Лагойшчыны, Яўгенія Сяглюк (Бярозаўскі раён), Аляксандр Кірэня з саўгаса «Свіслач» і Антаніна Жылінская з Барысаўскага раёна.

Фота І. АСКІРКІ.



СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# НАЗАВІЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, ІМЯ!

**Сталічны тэатр паказаў новую сцэнічную рэдакцыю спектакля, які іграўся ўпершыню больш за трыццаць гадоў назад. П'еса класічная, даўно ўсім вядомая. І заўсёды яна збірае аншлагі. Гэта—«Без віны вінаватыя» А. Астроўскага. Мабыць, размова пра ўзровень сцэнічнага ўвасаблення п'есы—наперадзе. Рэцэнзенты глядзяць спектакль, узважваюць ацэнкі. Праўда, аднаго адрасу для кампліментаў або для крытычных заўваг яны не маюць. І не будуць мець. Бо яго не ведае... тэатр. Рэжысёр, выканаўцы роляў. Нават бухгалтэрыя. Каго! Перакладчыка тэксту на беларускую мову.**

**Крыўдны выпадак! Пераклад—справа творчая, праца літаратара ў гэтай галіне заслугоўвае пашаны і сур'ёзнага аналізу. Гэта цяпер прызнана ўсімі. Санеты Шэкспіра ў перакладах Ул. Дубоўкі і Ю. Гаўрука, напрыклад,—цікавая спроба даць арыгіналу беларускі мастацкі эквівалент, дзе няўлоўна «прысутнічае» і паэтычная індывідуальнасць перакладчыка. Ды і той жа А. Астроўскі пад пяром К. Крапівы і пад пяром К. Чорнага набывае хай сабе толькі ў нюансах лексічнага характва або фанетыкі, нешта адметнае, а Я. Скрыган у «Апошняй ахвяры» зрабіў яшчэ адзін крок у плане «засваення» нашай мовай і тэатрам багацця рускай класікі. І грамадскасць павінна ведаць імя пісьменніка, які ўзяў на сябе пачэсны абавязак раскрыць моўныя глыбіні такога драматурга, як А. Астроўскі.**

**Элементарная павага да творчай працы перакладчыка вымагала, каб тэатр, знайшоўшы ў архівах экземпляр «Без віны вінаватых», высветліў, плён чыёй творчай энергіі ён зноў выносіць на падмосткі. Не, гэтага не зрабілі. Мы не ведаем, ці ўносіліся ў тэкст перакладу ўдакладненні і папраўкі. Магчыма, рэжысура лічыла зробленае безымянным аўтарам кананічным і нічога не «кранула». Гэта невядома. І на афішы адсутнічае такі важны для ўсіх, але, на думку тэатральнага кіраўніцтва, не абавязковы радок: «Пераклад на беларускую мову...»**

**Такія няўважлівыя адносіны часам пераходзяць і ў крытыку. У рэцэнзіі на кніжку А. Лабовіча «П'есы А. М. Астроўскага на беларускай сцэне» ў газеце «Літаратура і мастацтва» 29 кастрычніка г. г. указвалася, што даследчык не палічыў патрэбным назваць імёны перакладчыкаў і даць ім хоць бы мінімальную ацэнку. Да 50-годдзя нашай акадэмічнай сцэны выдавецтва «Беларусь» выпусціла ладную па памерах кнігу У. Няфёда «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы»—гісторыю драматычнага мастацтва за паўстагоддзя. І ў ёй няма ніводнага слова пра тое, як ажывалі ў новым моўным гучанні руская і еўрапейская класіка, творы пісьменнікаў братніх народаў! І на абмеркаваннях спектакляў па класічных п'есах наша крытыка амаль нічога не гаворыць пра творчасць перакладчыкаў. Як быццам гэта не вартая ўвагі «дробязь»—як гучыць па-беларуску са сцэны Шэкспір і Шылер, Талстой і Горкі, Маякоўскі і Ляонаў...**

**Удзельнік творчага акту, якую б сціплую ролю ён ні адыгрываў, мае права і павінен быць названы. Прыкра, калі канцэрт, які транслюе радыё, абрываецца пустымі словамі: «Вы праслухалі фартэпіянныя творы Шапэна...» Шапэн у трактоўцы Рыхтэра і Шапэн у Шацкага — гэта не адно і тое ж. І ёсць многа меламанаў, для якіх абавязкова трэба называць, чыё выкананне яны праслухалі.**

**Нават на даволі банальных паштоўках з кветкамі звычайна ўказваецца імя фотамайстра. А вось вы набылі арыгінальны сувенір, зроблены па эскізе вынаходлівага майстра прыкладнога мастацтва або ўнікальны крышталёвы кубак ці мастацкае шкло завода «Нёман»—і нідзе не знойдзеце імя аўтара. Трэба гартаць спецыяльныя выданні, дзе спецыялісты ў творчай размове даюць дакладны адрас цікавага мастацкага вырабу.**

**Творчы працэс мае свае асаблівасці ў параўнанні з не менш паважанай, але масавай вытворчасцю. Тут ад індывідуальнасці кожнага ўдзельніка залежыць ідэйна-мастацкае гучанне і эстэтычнае характва твора. Нават тады, калі яго рабіў калектыў.**

**Невыпадкова ж, скажам, у цітры кінафільма побач з рэжысёрам, выканаўцамі, аператарам, кампазітарам «ўпісваюцца» і імёны мантажораў і рэдактараў (не абмінаюцца і асістэнты!). Гэта—даніна павагі творчаму работніку і неабходная для большасці з нас фактычная даведка.**

**Тым больш здзіўляе той выпадак, з якога мы пачыналі гэтыя «100 радкоў...» — перакладчык класічнага тэксту драмы заслугоўвае па многіх важных меркаваннях быць названым на афішы. Неахайнасць такога парадку—гэта непарадак! І сведчыць толькі аб адным: яшчэ не ўсе мы і далёка не заўсёды патрабавальна ставімся да кожнага з кампанентаў творчага акту, лічым «дробязямі» тое, што не з'яўляецца і не можа быць дробным у мастацтве.**

**Давайце называць імёны тых, хто адказвае за ўзровень мастацкіх твораў! Будзем ветлівымі! Гэта—не толькі этыка. Гэта—неабходная атмасфера дзейнасці.**

# МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ БЫЛО Б 80...



С. ВАКАР. Максім Багдановіч. Фрагмент.

Максім ЛУЖАНІН

## НОВЫМ СВЯТЛОМ У НОВЫМ ЧАСЕ

**Сучаснікі кожнага вялікага пісьменніка знаходзяцца і ў больш і ў менш выгадным становішчы ў параўнанні з іх наступнікамі. Сучаснікі ведаюць, апрача твораў, і жывога чалавека. Наступнікам даводзіцца ўзнаўляць воблік па ўспамінах, дзённіках, абрыўках сказаў, жартаў, па паводзінах у той ці іншы круты паварот часу.**

**Нам жорстка нестае такіх вестак пра Максіма Багдановіча. Багдановіч меў усё, што трэба паэту, каб стаць вялікім: выключны паэтычны талент, вострае вока мастака, бездакорны густ крытыка, пачуццё мастацкай меры і бязлітасную патрабавальнасць да свае работы.**

**Каб спалучыць усе гэтыя якасці ў з'яву, якая б свяціла наддарожнай зоркай многім народам, не хапіла адной простай рэчы, якой нельга, на жаль, ні здабыць, ні падоўжыць, — жыцця. Калі ўважаць на кароткі век, спадчына Багдановіча — агромністая, не столькі па памеры, як па ўнутраным зарадзе думкі і пачуцця, так і па культурным узроўні, на які ён узняў нашу літаратуру.**

**І—дзіўна!—праз гэту вялікую заслугу Багдановіч быў доўга недаацэнены, незразуметы і ў свой час, і ў час не так далёкі. Ёсць сведчанні, што першыя вершы Багдановіча, дасланыя ім у «Нашу ніву», паклалі ў папку з надпісам «у архіў».**

**У газеце было дзве «палаты»: верхняя—выдаўцы яе і ніжняя, дэмакратычная. Але нават у ніжняй «палаце» бараніў і дамагаўся друкавання Багдановіча амаль адзін Янка Купала. Рэшта гаварыла аб незразумеласці, нават вінавацілa аўтара ў дэкадэнцтве. Лічылі, што трэба даваць у газеце толькі чорную скарынку духоўнага хлеба, быццам бы толькі яна да спадобы беларускаму мужыку.**

**Як тварыў свае шэдэўры Багдановіч, мы не ведаем. Як ішоў працэс творчасці—выключна на паперы, ці на яе заносілася толькі канчаткова сфармаванае! Вядома адно: працэс гэты быў марудны і цяжкі. Багдановіч пісаў і ў той жа час здабываў сабе мову, бо не пачуў яе з вуснаў маці, а ўбіраў з кніг і ад людзей, пад час кароткіх наведванняў краіны.**

**Багдановіч судзіў сябе строга. Дайшлі весткі, што для ацэнкі паэзіі ён прапанаваў штосьці накшталт матэматычнага аналізу. Расчляняць верш на вобразы, звароты, метафары, выразы, словы. Падлічыць, колькі з іх ужывалася і колькі створана ўпершыню— і тады меркаваць, чаго варты твор.**

**Тут не ўлічаны толькі—настрой паэта, яго страсць, яго натхненне.**

**На наша шчасце, Багдановічава патрабавальнасць да арыгінальнасці не выключыла згаданых першаступенных акалічнасцей. Яго верш заўжды натхнёны, і гэта, пры глыбіні думкі і бліскучай апрацоўцы, дае нам магчымасць зазнаваць асалоду і ўцеху, а творам Багдановіча—не гаснуць, а разгарацца новым святлом у новым часе.**

Міхась ЯРОШ

МАКСІМА БАГДАНОВІЧА неаднойчы лічылі паэтам чыстай красы. Яно, пэўна, так і ёсць, гледзячы толькі, як развумець красу і як яе апяваць. Так, Багдановіч на пачатку нашага стагоддзя быў самым «асабістым» паэтам. Ён і паэтызаваў, услаўляў чыстую красу свайго краю, свайго народа, сваёй маладой Беларусі.

А яму ж давялося пабачыць Радзіму толькі на дваццатай вясне — ужо тады, калі стаў агульнапрызнаным паэтам, крытыкам, публіцыстам. Ён убачыў краявіды няяркія, але поўныя гармоніі і прыгажосці, чалавека знешне штодзённага, звыклага, але прывабнага, чароўнага па сваёй натуры, мужнага, вынослівага, працавітага. Ён убачыў Беларусь у яе гісторыі і сучаснасці, Беларусь, «калі адбывалася інтэнсіўнае станаўленне нацыі», калі краіна імкнулася заняць «свой пачэсны пасад між народамі». Ён адчуў народную моц і гарт, у чым і раней, пэўна, не сумняваўся. Інакш бы мы не мелі «Вянка», «Максіма і Магдалены», «Страцім-лебедзя».

Да гераічнага эпасу ішоў Максім Багдановіч. Ён яго ствараў хворым, не чакаючы нічога добрага ад наканаванага лёсу. Ці не таму неяк зусім глуха, прыцішана, прытоена трагічна гучаць заключныя радкі паэмы «Страцім-лебедзь»?

**Ад усіх цяпер патомкі ёсць,**
**Ды няма адных — Страцімавых.**

У «Страцім-лебедзі» праблема гераічнага характару застаецца цэнтральнай і вырашаецца ў абагульнена-філасофскім плане. Філасофская думка стала тут думкай паэтычнай. Паэма сцвярджала дзейсныя адносіны да жыцця, услаўляла самаахвярнасць служэння агульнай справе. Ва ўмовах ваеннай катастрофы — паэма пісалася ў 1916 годзе — яна ўспрымалася як наказ кожнаму сумленнаму чалавеку да канца аддаваць свае сілы барацьбе за будучыню народа.

Твор у пяцьдзесят пяць радкоў даследчыкі (хоць і не ўсе) называюць паэмай. І называюць, думаецца, не без падстаў. Філасофская глыбіня твора выяўляецца праз маштабны, рэзка акрэслены канфлікт (бог — Страцім-лебедзь), адзінаборства героя са стыхіяй паказваецца ў былінна-сказавым ключы, сюжэт драматычна напружаны. Драматызм узмацняецца ад таго, што ў трагічным зыходзе паядынку Страцім-лебедзя са стыхіяй вінаватыя тыя, каго ён ратаваў, — «птахі дробныя». Яны не хацелі мірыцца з рэальнасцю, а кожны стараўся зберагчыся толькі сам. Паэма «Страцім-лебедзь» — узор народна-гераічнага эпасу, да якога вяла Багдановіча творчая эвалюцыя.

Гісторыю ўзнаўляў паэт неаднойчы. Ён настойліва сцвярджаў, што і беларусы мелі сваю гісторыю — гісторыю пакутлівую, але разам з тым і гераічную, асобныя надзвычай яркія старонкі якой складаюць летапіс мужнасці, таленавітасці беларускага народа. Для паэта, сэрца якога «начамі аб радзімай старонцы баліць», самым агідным, самым страшным быў той, хто здрадзіў свайму народу, хто не хацеў пашыраць славу роднай зямлі. У асуджэнні здраднікаў, у паэтызацыі нязломнай сілы народа, за плячыма якога багатая гісторыя, Багдановіч дабіваецца ў «Пагоні» высокай душэўнай страснасці і эмацыянальнай напружанасці. Услаўляючы продкаў, Багдановіч імкнецца звычайна да канкрэтнасці малюнка, да аб'ектывізаванага паказу даўніх падзей, спраў і ўчынкаў выдатных прадстаўнікоў беларускай зямлі (цыкл «Старая Беларусь», «Песня пра князя Ізяслава Полацкага» і інш.). Багдановіч старанна выпісвае самую падзею, прама не выказваючы да яе сваіх адносін. Адносіны, праўда, няцяжка зразумець, бо вершы, як правіла, маюць багаты падтэкст, аўтарскія сімпатыі прасвечваюцца ў кожным эпітэце, метафары, інтанацыі. «Цвяток радзімы васілька» ў «Слуцкіх ткачыхах» — гэта ёмісты, цудоўны сімвал таленавітасці чалавека, яго вернасці нацыянальным культурным традыцыям; ва ўяўленні ж чытача ён паўстае быццам рэальны, знаёмы і прывабны—настолькі дакладна, строга выпісаны малюнак. Праца перапісчыка з верша той жа назвы паказваецца так рэльефна, з такой яснай мэтавай устаноўкай, што мы перажываем захапленне паэта чалавекам, яго творчасцю:

**Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць**
**Пяро гусінае, і гляне: светла сонца**
**Стаўпамі падае праз вузкае аконца,**
**І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл.**

Мэта Багдановіча — шырока, шматгранна паказаць выключную жыццестойкасць беларускага народа, выявіць яго таленавітасць, духоўнае высакародства, бессмяротнасць яго культурных набыткаў. Вось чаму ён натхнёна ўслаўляе і бязмежную мужнасць працоўнага чалавека («Нашых дзедаў душылі абшары лясоў»). і яго вялікія мастацкія здольнасці («Слуцкія ткачыхі»). Вось чаму ён паэтызуе невядомых летапісцаў і

ЁН ПРАЖЫЎ крыху больш, як дваццаць пяць год. Ён працаваў у літаратуры ўсяго толькі адно дзесяцігоддзе. Ён выдаў толькі адну адзіную кніжку паэзіі, якая адначасова была і яго першым зборнікам і на дзіва прыдзірліва складзеным выбраным паэта.

Але, нягледзячы на ўсе гэтыя «толькі», у Максіма Багдановіча, у гэтага знанага і славутага юнака, вось ужо некалькі дзесяцігоддзяў не саромеюцца вучыцца і тыя, хто, выдаўшы па некалькі дзесяткаў паэтычных кніжак, знаходзяцца ў добрай пары сталага і мудрага вопыту; і тыя, хто, як, скажам, маё пакаленне, набыўшы ясную і светлую разважлівасць, упарта набліжаецца да філасофскага асэнсавання жыцця; і тыя, хто, часцей за ўсё пераросшы паэта па гадах, нясмела і сарамліва збірае ў далейшую дарогу свой неслухмяны вырай — першую кніжку паэзіі.

Янка СІПАКОЎ

## У РОДНЫМ КРАЮ ЁСЦЬ КРЫНІЦА...

Бо Максім Багдановіч стаіць у нашай роднай літаратуры, на нашай беларускай зямлі моцна і трывала — як глыба. Яго не ссунеш з дарогі. Яго не абмінеш абыякава. Каля яго не пройдзеш напышліва і пагардліва. Хочаш ці не хочаш, а мусіш абавязкова азірацца на яго вопыт, на яго асобу, на яго прасторавы паэтычны край. Што ж, вялікі паэт заўсёды стаіць на самым відавоку — ён адусюль відзён.

Нам трэба вучыцца ў Максіма Багдановіча складаць свае паэтычныя зборнікі — каб і ў іх, як у ягонай кнізе, быў такі ж парадак і лад. Перачытваеш зноў «Вянок» і яскрава, у каторы ўжо раз, бачыш, як там усё арганічна, усё да месца. Там няма нічога лішняга, што б можна было безбалесна выняць, туды нельга дадаць што-кольвек новае, не парушыўшы рытму кнігі. Гэта не абыякавы зборнік выпадковых вершаў, а сюжэтная кампазіцыя думкі, музыкі, пачуцця.

Мы вучымся культуры яго паэтычнага мыслення, вучымся культуры яго пісьменніцкай працы нагул. Як шырока глядзеў паэт на свет! Ён нават і за такі кароткі час паспеў паспрабаваць сябе, апрача паэзіі, яшчэ і ў прозе, і ў крытыцы, і ў публіцыстыцы. І мы здзіўляемся ад нечаканасці, калі чытаем, якія высокія і не вельмі зразумелыя на той час патрабаванні да сваіх твораў і да ўсёй беларускай літаратуры меў дваццацігадовы юнак, які смела і стала ўзяўся рабіць агляд роднай літаратуры за год. Ён, гэты юнак, шчыра верыў, што беларуская паэзія, каб стаць вядомай у свеце, не павінна цурацца і саромецца свайго нацыянальнага выгляду, але ёй трэба паболей унутранай культуры, шырыні і, калі хочаце, элегантнасці, без якіх любая паэзія робіцца абмежаванай, толькі для хатняга ўжытку. А ён марыў вывесці ў людзі нашу паэзію — менавіта беларускую, менавіта нацыянальную песню, якая б змагла ўзбагаціць паэзію свету сваімі беларускімі формамі, думкамі, сваім адметным успрыняццем жыцця, бо «вялікі чалавек заўсёды нацыянальны, як яго народ, бо ён таму і вялікі, што прадстаўляе сабою свой народ», — як пісаў пра гэта В. Бялінскі.

Мы павінны вучыцца ў паэта любіць сваю Радзіму. Ён, сур'ёзна хворы чалавек, знаходзячыся далёка ад свайго роднага краю, здаецца, да наіўнага шчыра верыў, што толькі родная зямля мае тую гаючую крыніцу з жывою вадою, якая вылечвае любую хваробу...

**У родным краю ёсць крыніца**
**Жывой вады...**

Ён любіў свой край. Ён любіў усе народы зямлі чыстай любоўю, глыбока паважаў іх. Ён, на прыкла-

перапісчыкаў, якія ўзбагачалі народную культуру цудоўнымі шэдэўрамі — кнігамі («Кніга», «Летапісец», «Перапісчык»). У іх раскрываецца характар беларуса — чалавека здольнага, мужнага, стойкага, цягавітага.

Майстэрскае выкарыстанне рамантычных прынцыпаў тыпізацыі дазваляе Багдановічу паказаць трываласць нацыянальных традыцый і тым самым сцвердзіць ідэю жыццяздольнасці беларускага народа, выявіць самабытнасць таго грунту, на якім пачыналася абуджэнне сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці шырокіх працоўных мас. Такі погляд назад, у гісторыю, садзейнічаў таму, што будучыня роднага краю ўсё часцей вырысоўвалася ў яго творчай фантазіі ў светлых, вясёлкавых фарбах. Гэта Багдановічу належыць верш «Кінь вечны плач свой аб старонцы!»:

**Не згасла сонца! Сонца гляне,**
**Усіх падыме ада сна.**
**Ён, гэть дзень, яшчэ настане,—**
**І ачуняе старана!**

**Я пад яе зімовай маскай—**
**Пад снегам—бачу твар вясны,**
**І вее верш мой дзіўнай казкай,**
**І ясны ён, як зорак сны.**

Пад гэтым вершам, безумоўна, падпісаўся б, не задумваючыся, Янка Купала.

Непасрэдная творчая вучоба Багдановіча ў Купалы ў апошнія гады ўсё больш настойліва падкрэсліваецца. Купалаўская паэзія сапраўды ўздзейнічала на юнака Багдановіча. Яна ўздзейнічала ўжо фактам свайго існавання, мілагучнасцю мовы, патрыятычнай мэтанакіраванасцю, гуманістычным пафасам — усім тым, без чаго не ўяўляў сэнсу жыцця, свайго грамадзянскага абавязку адарваны ад радзімы малады паэт. Але наўрад ці можна гаварыць аб пераймані Багдановічам купалаўскіх традыцый. Спашлемся на творы міфалагічнага плана, дзе Багдановіч, як і ў іншых, імкнуўся апаэтызаваць прыроду нябачанай яшчэ Беларусі.

У вершах на міфалагічныя тэмы Купала застаецца паэтам, вельмі чулым да павеваў грамадскага жыцця, надзвычай тэмпераментным, каб заняць пазіцыю сузіральніка. А ў міфалагічных вершах Багдановіча якраз і дае сябе адчуць элемент сузіральнасці, любавання дзіўнай красой беларускай прыроды, захаплення яе велічнасцю, яе першароднай, некранутай рукой чалавека прыгажосцю. Уласна цыкл «У зачараваным царстве» і ствараўся дзеля таго, каб апаэтызаваць прыроду, каб паказаць людзям, якая яна незвычайна прываблівая, казачна здзіўляючая. Паэту, які ведаў Беларусь з апавяданняў родных, з этнаграфічных апісанняў, было ўласціва рамантычнае ўяўленне аб радзіме. Такое ўяўленне, як і цяга да нацыянальна-самабытных мастацкіх форм, і скіроўвала позірк паэта на каларытныя, велічныя вобразы старажытнага народнага светаадчування (лясун, вадзянік і г. д.), з дапамогай якіх і асэнсоўваючы якія ён і імкнуўся ўвасабляць свае незвычайныя, арыгінальныя задумы. І. Замоцін справядліва адзначаў, што Багдановіч «успрымае гэтыя вобразы беспасрэдна, проста, з якойсьці дзіцячай наіўнасцю і даверлівасцю».

Уключаныя ў мастацкую тканіну поруч з рэальнымі прадметамі і з'явамі, міфалагічныя вобразы губляюць сваё ранейшае ўнутранае напаўненне і пачынаюць выконваць у творы функцыю паэтычнага прыёму, успрымаюцца як разгорнутая, маштабная метафара, рамантычная па сваёй сутнасці. А гэтым дасягаецца своеасаблівы нацыянальны каларыт верша.

**Усё дзіка, пустынна імшыцца,**
**Агністая спёка стаіць,**
**На моху між спелай брусніцы**
**Лясун адзінокі ляжыць.**
**Каравая моршчыцца скура,**
**Аброс цёмным мохам, як пень,**
**Трасе галавою панура,**
**Бакі выгравае ўвесь дзень.**

У Купалы міфалагічны вобраз— увасабленне пэўных сацыяльна-грамадскіх сіл, у Багдановіча — ўмоўны прыём стварэння дзікаімшарнага пейзажу. Адпаведна маляўнічая і рытмічная фактура вершаў розная: у Купалы — дынаміка, экспрэсія, канфліктнасць, у Багдановіча — супакоенасць, сузіральнасць, пластыка.

Адметнасць накіраванасці і творчай манеры — сведчанне таго, што адзін і той жа ці блізкі матэрыял кожны сапраўдны майстар абавязкова апрацоўвае па-свойму, ствараючы вельмі непадобныя, самабытныя ўзоры мастацтва. Гэта адметнасць — не абавязкова вынік рознай ідэйнай пазіцыі паэтаў. Багдановіч з самага пачатку знаходзіўся ў дэмакратычным лагеры беларускай літаратуры, на чале якога стаяў Янка Купала. Амаль што ў адзін час з міфалагічнымі вершамі ён піша і вершы глыбокага нацыянальнага зместу: «Над магілай мужыка», «З песень беларускага мужыка», «Мая душа», «Дождж у полі і холад» і некаторыя іншыя — выдатныя творы грамадзянскай лірыкі.

Багдановіч жыў Беларуссю, інтарэсамі яе працавітага, таленавітага народа. Яго творчасць — гэта ўслаўленне прыгажосці роднай зямлі, узнёслая паэтызацыя простага чалавека.

---

дзе царызму, які прыніжаў і закрэсліваў яго край, ведаў, як гэта балюча. Таму ў яго нават і ў думках не было ўзвышаць свой народ над якім-небудзь іншым. Ён хацеў толькі ўзняць свой край, паставіць яго побач з усімі, сказаць, што і беларусы — такі ж самы народ, як і ўсе астатнія: са сваёй гісторыяй, са сваёй культурай, са сваімі казкамі, песнямі і легендамі, са сваёй мовай.

Свая мова... Спачатку ён пісаў тою моваю, якой ніколі не чуў, але якая клекатала і бурліла ў яго ўражлівай душы — як далёкі напамінак, радасная згадка пра родны край. Паэт пісаў «на мове, якой не чуе вакол сябе, а чуе ў сабе», — як пра гэта хораша ўспамінае яго сябра Д. Дзябольскі.

Дзесяцігоддзе, якое няўмольны лёс адвёў Максіму Багдановічу на творчасць, было вельмі змрочным. Царызм, нібы ў агоніі, хапатліва душыў усё, што напаміналa яму пра рэвалюцыю, а ў цемрыве рэакцыі не відно было і малюсенькага прасвету. Але Багдановіч, нягледзячы на гэта, застаўся паэтам светлай надзеі. Яго ўпэўненае слова «Дачакаемся!», звернутае і да краіны, і да прыніжаных людзей, прыспешвала рэвалюцыю. Тую Вялікую Кастрычніцкую Рэвалюцыю, якая ўзвысіла яго прыніжаны народ і да якой ён не дажыў усяго некалькі месяцаў..

У Максіма Багдановіча свая тэма, свой свет, свая мова і ўсё— непаўторнае. Ягоны свет не прадоўжыш, не падробіш. Там, у тым свеце — толькі адзін ён. Задумлівы і разважлівы. Крыху элегічны і шчымліва-тужлівы.

Нельга таксама паўтарыць яго мову, якую паэт чуў толькі ў сабе. Нельга паўтарыць і яго тэму. Але вучыцца ў Багдановіча шукаць сваю тэму, сваю мову і свой свет нікому, відаць, не зашкодзіць.

Бо Максім Багдановіч — гэта чалавек, які ўзняўся над сваім узростам. Бо гэта паэт, які за свае дзесяць творчых год пражыў такое вялікае і такое таленавітае паэтычнае жыццё.

**Янка СІПАКОЎ.**

## *Паэтычная* ПАВЕРКА

Сяргей ГРАХОЎСКІ



## ЗДЗІЎЛЕННЕ

Здзіўляюся заўсёды ўсходу сонца,
Вясёлцы і дажджынцы на траве,
Здзіўляюся зачараванай слонцы
І ластаўцы, што пад страхой жыве.

Здзіўляюся усмешцы немаўляці,
Што цмокае губамі і гудзе,
Дзіўлюся прыгажосці юнай маці,
Што прытуліла сына да грудзей.

Здзіўляюся, калі ў асенні вечар
Лісты ляцяць у мокрую траву,
Здзіўляюся растанню і сустрэчы,
Здзіўляюся, хвалююся — жыву!

Здзіўленнем пачынаю новы
тыдзень,
Звычайны, без трывог і без акрас,
А калі гора або смерць надыйдзе,
Здзіўлюся, што прыйшлі яны
не ў час.

## ВЫРАТАВАННЕ

*Нілу ГІЛЕВІЧУ*

Сваю тугу
Сагні ў дугу,
А калі не —
Яна сагне
І выб'е з рук
Апошні круг —
Тваё выратаванне
Ў шалёным акіяне.
І не кажы,
Што ўсё адно
Плысці ці рынуцца
На дно.
Хоць рукі ў ранах
І ў крыві,
А ты плыві,
А ты плыві,
Хоць берагу і не відно,
І карабель пайшоў на дно,
А ты плыві з апошніх сіл,
Хай рукі, быццам пара крыл,
Аб хвалі б'юцца да зары,
Бо недзе ёсць яшчэ сябры
На светлым беразе тваім,
І ты яшчэ патрэбен ім.
Калі ж ты галавой панік,
Яна, як цяжкі каласнік,
Цябе пацягне ў чорны вір,
На рыфы вострыя і жвір.
Адчай з тугою у душы
Ты без ваганняў прыдушы,
І выйграеш нялёгкі бой
Са штормам і самім сабой.
Калі ж знясілее рука,—
Агні убачыш маяка
І даплывеш,
І даплывеш,
Паверыўшы, што зноў
Жывеш.

## ЛІТАСЦЬ

Крыніца захлынулася ў прадонні,
Пяскі забілі гарлавіны рэк,
На берагі Пцічы і ціхай Проні
Бязлітасна ступіў дваццаты век:

Жалезнымі шыпамі ператрушчыў
Сівых дубоў тугія карані,
І засталіся ад спрадвечнай пушчы
Ламачча і абпаленыя пні.

Іду, нібы глухі і невідушчы,
Не пазнаю знаёмае ракі,
Бо не гамоняць на ўзбярэжжы
пушчы
І не такуюць больш цяцерукі.

Мурашкі точаць прэлыя калоды,
Крычыць перапалоханы бакас.
Мы ўжо не просім міласці
ў прыроды, —
Прырода просіць літасці ў нас.

## ПРАМОЎЦЫ

Былі аратыя,
Цяпер — аратары.

Мы часта гаворым не тое,
што ў сэрцы,
А што напісалі даўно на паперцы.
І ў кожнай прамове
разважлівасць ёсць,
Ёсць пафас і лічбы, і жарты,
і злосць,
Цытаты і прыказкі ў вершах
і ў прозе,
І рэшта-цытаты, але без двукоссяў.
Цытуем з пажоўклай ці свежай
брашуркі,
Нібы з хлапчукамі гуляем
у жмуркі:
Старому партыйцу або маладому
Даводзім, што кожнаму змалку
вядома.
Сяброў сустракаем на людным
вакзале,
Вось тут бы, здаецца,
ад сэрца сказалі
Гарачае, шчырае, добрае слова,
Ды лезе адразу з кішэні
прамова.
А гора надыдзе, ідзем
на хаўтуры
З жалобнай старонкаю
літаратуры.
Сустрэнем дзяўчыну пад ліпай
кашлатай,
У вечным каханні клянемся
цытатай.
Калі ж на вяселлі выскакваюць
коркі,
Чытаем з паперкі:
«Таварышы, гор-ка!»
Ой горка жывога не чуць
хвалявання,
А толькі чытанне, чытанне,
чытанне...
Выходзь на трыбуну, каб шчыра
і смела
Сказаць без паперкі, што ў сэрцы
наспела.

---

*...І ШЧЫРАЕ ЖАДАННЕ НОВЫХ СУСТРЭЧ*



Народны паэт Дагестана, лаўрэат Ленінскай прэміі Расул Гамзатаў для нас, беларусаў, стаў яшчэ больш блізкім і дарагім — госць нашай сталіцы, ён пакарыў нас сваёй шчырасцю, непасрэднасцю, дасціпнасцю, той глыбокай народнай мудрасцю, якая не мае патрэбы ў напышлівых фразах.

Ён паехаў, пакінуўшы аб сабе самыя лепшыя ўспаміны, самыя светлыя ўражанні. І шчырае жаданне новых сустрэч.

Фота Ул. КРУКА.

# «У ІМЯ ЛЕПШЫХ РАДАСЦЕЙ НА СВЕЦЕ»

*Мікалаю ЦІХАНАВУ — 75 гадоў*



Гэта фраза, узятая з верша Мікалая Ціханава, на маю думку, лепш за ўсё і дакладней за ўсё перадае сэнс яго жыцця і атмасферу яго творчасці, характар яго светаадчування і адносін да рэчаіснасці.

За плячыма Мікалая Ціханава — вялікае жыццё, якое прайшло праз грандыёзныя падзеі гісторыі і напоўнена тытанічнай работай самога паэта, яго творчасцю «ў імя лепшых радасцей на свеце».

Ціханаву 75 гадоў. Многа вершаў, прозы, публіцыстыкі, перакладаў, многа працы і неспакою. Ён маштабны, ён злітны сваім лёсам з дзівосным лёсам часу, з тымі ідэямі, якія ашаламілі свет, якім увесь свой выдатны талент і прысвяціў паэт. Ціханаў заўсёды быў на грэбені хвалі, у калаверці тых падзей, дзе вырашалася галоўнае ў жыцці яго народа і ў жыцці чалавецтва, дзе паэт займаў нясляхоўную пазіцыю актыўнага байца, што змагаецца на пярэднім краі.

Яшчэ хлопчыкам ён быў сведкам першай рэвалюцыі ў 1905 годзе і запомніў пах снегу, прамочанага чалавечай крывёю. Ён быў прызваны ў гусарскі полк у час першай сусветнай вайны і ведае, што такое конная атака. З вінтоўкай у руках ён абараняў у 1919 годзе маладую Савецкую ўладу ў акопах пад Петраградам. Да гэтага часу ён ведаў вайну «ў твар» і ўмеў цаніць самую высокую годнасць чалавека — мужнасць. Ён выхоўваў у сабе гэту мужнасць з дзяцінства, і яна стала асэнсаванай уласцівасцю яго характару...

Ціханаў — адзін з пачынальнікаў магутнай савецкай літаратуры. Ён стаў адным з першых яе разведчыкаў, намацваючы для яе дарогу на шырокую сусветную прастору. У сваіх першых кнігах «Арда» і «Брага» ён адразу заявіў аб сабе як майстар арыгінальны і глыбокі. Яго вопыт бачання свету і пазнання чалавечых душ, іх адносін пазначаны ўпэўненым веданнем справы, яго ўласным, ціханаўскім почыркам.

Ціханаў умее служыць часу, яго перадавым ідэям, і сам час, як бы ва ўзнагароду за гэта, даваў магчымасць паэту ўбачыць галоўнае ў часе, сутыкаючы яго са сваімі героямі і з іх подзвігамі.

Сам маштабны мастак Ціханаў мысліць маштабна і заўсёды прывучае да гэтай маштабнасці свайго чытача, раскрываючы перад ім багацце магчымасцей у будаўніцтве новага свету. Ён многа спрабаваў і эксперыментаваў, выпрацоўваючы дакладны і лаканічны стыль. Ён чуйна слухаў час і разумеў з усёй адказнасцю непазбежнасць сутыкненняў і катастроф. Ён разумеў, што мірныя чайкі, якія носяцца ў вышыні, могуць абярнуцца эскадрылляй смерці. І яго аповесць «Вайна», і паэтычны зборнік «Цень сябра» былі папераджальна-прарочымі кнігамі. Ён папярэджваў у іх Радзіму, Еўропу, свет аб катастрофе, якая насоўвалася.

І Ціханаў нястомна рыхтаваў сябе да выпрабаванняў, быў гатовы сустрэць іх і як салдат, і як мастак. Таму ў блакіраваным фашыстамі Ленінградзе ён быў прыкладам і працаздольнасці, і стойкасці, і ўпэўненасці ў нашай перамозе. Я ўжо не помню, хто з яго блакадных таварышаў (паэты Саянаў ці Пракоф'еў?) празваў яго «магутным». Больш дакладную, чым гэта сяброўская характарыстыка, бадай, прыдумаць нельга.

У той час ён рабіў усё: пісаў вершы, апавяданні, нарысы, подпісы да агітплакатаў. Ён умеў выкарыстоўваць увесь запас сваіх незвычайных ведаў у галіне вайны і гісторыі ў паўсядзённай рабоце журналіста, пісьменніка, арганізатара. Яго штомесячныя хронікі, яго «Ленінградскія апавяданні», яго блакадная паэма «Кіраў з намі» сталі летапісам мужнасці на ўсе часы. Я памятаю, як у яго неацепленай кватэры ў цёмныя галодныя вечары 1942 года збіраліся маладыя літаратары — і колькі было дзівоснага аптымізму ў тых гутарках, якія часта перапыняліся абстрэламі і бамбёжкай!..

Ціханаў для мяне — прыклад дзеяча!

Не дзіва, што менавіта яго, салдата, які перанёс цяжкасці ленінградскай блакады, адразу ж пасля вайны мы ўбачылі на пасадзе старшыні савецкага Камітэта абароны міру. Мы чулі яго цвярозы ўсхваляваны голас з трыбун мноства кангрэсаў і з'ездаў, голас чалавека, перакананага ў тым, што мір на зямлі можна захаваць, што ёсць магутныя сілы для ўтаймавання агрэсара. І мы сведкі гэтага: рух прыхільнікаў міру, які ахапіў усе кантыненты Зямлі, папярэдзіў і прадухіліў многія катастрофы.

Ён аб'ездзіў увесь свет, уважліва ўзіраючыся ў працэсы грамадскага жыцця. Яго кнігі аб Балгарыі і Югаславіі, аб Кітаі і Індыі, аб Пакістане і Афганістане, аб лёсах гэтых краін, аб іх людзях поўныя праўды, дабра і сэнсу. Яны напісаны інтэрнацыяналістам па прызванні і гуманістам па перакананні.

«...Праздничный, веселый, бесноватый, с марсианской жаждою творить, вижу я, что небо небогато, но про Землю стоит говорить». Гэтымі словамі адкрывалася першая кніга Мікалая Ціханава «Арда». Ён застаўся ім верны ўсё жыццё. Ва ўсіх кнігах яго вершаў, прозы, публіцыстыкі, ва ўсім яго характары ёсць гэта невынішчальная прага творчасці, і ўсе яго кнігі — пра Зямлю і сына Зямлі Чалавека-творцу, пра яго думкі і здзяйсненні.

І ўсё-такі асаблівай заслугай Ціханава-літаратара, як мне здаецца, трэба лічыць яго вельмі тонкую і цяжкую работу па арганізацыі ўзаемасувязяў нацыянальных літаратур з рускай літаратурай, па выяўленні і выхаванні мастакоў слова ў нацыянальных савецкіх рэспубліках, па арганізацыі перакладчыцкай работы, у якой ціханаўскія пераклады з грузінскай паэзіі назаўсёды застануцца ўзорамі. Ён перакладаў не толькі з грузінскай мовы. Ён перакладаў з многіх моваў паэтаў, якія жывуць на Каўказе.

Ва ўсіх рэспубліках лепшыя літаратары — сябры Ціханава. Сябры даўнія і верныя. Заўсёды і ўсюды ён падае прыклад таго, як павінен дзейнічаць і працаваць паэт, літаратар у новым грамадстве, у грамадстве сацыялістычнага братэрства народаў.

За ім доўгі дзівосны шлях даследавання чалавечай душы і таго здзіўляючага свету, у якім гэта душа жыве, змагаецца, шукае, расчароўваючыся і перамагаючы, сцяжынкі да чалавечага братэрства Зямлі, да чалавечага шчасця.

Ціханаў многа зрабіў «у імя лепшых радасцей на свеце».
Ён сапраўдны мастак часу.
Ён у дарозе.
Добрай яму дарогі!

**Міхаіл ДУДЗІН.**
(АДН).

## Уладзімір КОРБАН



Раптоўная смерць абарвала жыццё вядомага беларускага паэта-сатырыка і байкапісца, члена КПСС з 1932 года Уладзіміра Іванавіча Корбана.

У. І. Корбан нарадзіўся ў 1910 годзе ў пасёлку Барань, Аршанскага раёна, у рабочай сям'і. Скончыўшы сямігодку, паступіў токарам на аршанскі завод «Чырвоны Кастрычнік». Пасля службы ў радах Чырвонай Арміі працаваў старшынёй заўкома на «Чырвоным Кастрычніку», потым старшынёй будкома Аршанскага льнокамбіната.

У гады Вялікай Айчыннай вайны камандаваў стралковай ротай, быў супрацоўнікам аператыўнага аддзела штаба вайсковага злучэння. Удзельнічаў у баях пад Бранскам, Арлом, Оршай, Барысавам і ва Усходняй Прусіі. Пасля вайны працаваў механікам і начальнікам цэха на заводзе «Чырвоны Кастрычнік», дырэктарам цвікавага завода ў г. Лідзе.

Творчую дзейнасць пачаў у 1945 годзе. Уладзімір Корбан — аўтар больш дваццаці кніг баек, вершаў, апавяданняў, у тым ліку: «Мы іх ведаем», «З вецярком», «Гарачая прыпарка», «Дзе гэта вуліца?», «Не на сваім месцы», «Да цёшчы на бліны». Яго творчасць вызначаецца палітычнай завостранасцю, надзённасцю і высокімі мастацкімі якасцямі. Яна шырока вядома ў народзе. Многія байкі аўтара трывала ўвайшлі ў рэпертуар прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў рэспублікі. Творы паэта перакладзены на рускую, украінскую і мовы другіх народаў СССР.

Шмат энергіі У. І. Корбан аддаў журналісцкай дзейнасці. На працягу шэрагу год ён плённа працаваў у часопісе сатыры і гумару «Вожык», з 1967 года да нядаўняга часу з'яўляўся яго галоўным рэдактарам. У апошнія паўгода, у сувязі з пагоршаннем стану здароўя, знаходзіўся на пенсіі.

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі У. І. Корбана перад Радзімай. Ён узнагароджан ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны II ступені, Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны» і медалямі. Яму было прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры БССР.

І ў жыцці і творчасці У. І. Корбан заўсёды адстойваў партыйныя пазіцыі, быў высока прынцыповым чалавекам і чулым таварышам.

Светлы вобраз Уладзіміра Іванавіча назаўсёды застанецца ў сэрцах усіх яго сяброў і таварышоў.

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР. Міністэрства культуры БССР. Праўленне Саюза журналістаў БССР. Рэдакцыя часопіса «Вожык».**

●

Перастала біцца шчодрае сэрца паэта. А ў гэту горкую, пякучую часіну мне прыгадваецца сонечнае лета 1950 года ў Доме творчасці ў Каралішчавічах. Там упершыню ўбачыў я Уладзіміра Корбана. Ён прыехаў туды з першай сваёй кнігай баек «Мы іх ведаем» да Кандрата Крапівы — ён рэдагаваў гэты зборнік. Славуты наш байкар даў высокую ацэнку зборніку, даў яму пуцёўку ў жыццё. З таго часу многа было зроблена Уладзімірам Корбанам. Адна за адной амаль кожны год выходзілі ў свет яго кнігі баек: «З вецярком», «Янка і санкі», «Дакладныя прыкметы», «Гарачая прыпарка», «Дзе гэта вуліца?» і яшчэ многа іншых.

У апошні свой шлях пайшоў ад нас чалавек прамяністай душы, чыстага сумлення, яснага розуму.

Бывай, мой верны, сардэчны друг, шчодрай душы чалавек.

**Антон БЯЛЕВІЧ.**



Прэм'ерай драмы С. Кайтава «Сэрца маці» пачаў сезон Баранавіцкі народны тэатр. Лейтматыў п'есы — непарушная дружба народаў нашай краіны. Новую работу самадзейныя артысты прысвячаюць 50-годдзю СССР.

Фота А. ПЕРАХОДА. (БЕЛТА).

*У МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ БССР*

## ФІНАНСАВАЯ ДЫСЦЫПЛІНА І ТВОРЧАСЦЬ

Калегія Міністэрства культуры БССР разгледзела вынікі фінансава-гаспадарчай дзейнасці тэатраў і музычных устаноў за дзевяць месяцаў гэтага года. Адзначана, што план паказу спектакляў і канцэртаў перавыканан, атрыманы звышпланавыя прыбыткі, колькасць паказаных спектакляў і гледачоў вырасла ў параўнанні з мінулым годам.

Разам з тым калегія адзначыла, што ў рабоце тэатраў і музычных устаноў былі сур'ёзныя недахопы. Ідэйна-мастацкі ўзровень многіх спектакляў не задавальняе гледача, у выніку чаго глядзельныя залы бываюць напалову пустыя. План выпуску новых пастановак не выкананы тэатрам імя Янкі Купалы, Рускім драматычным тэатрам імя М. Горкага, Тэатрам юнага гледача, Гомельскім абласным тэатрам, Магілёўскім тэатрам драмы і камедыі. Кіраўніцтва тэатраў і канцэртных арганізацый не забяспечвае раўнамернай занятасці артыстаў у спектаклях і канцэртах. Некаторыя рэжысёры і мастакі мала ставяць спектакляў у сваіх тэатрах, у выніку чаго працуюць па сумяшчэнні ў іншых установах. А таму атрымліваецца, што вопытныя майстры сцэны не знаходзяць дастатковага часу для работы з артыстычнай моладдзю сваіх тэатраў, уводу ў спектаклі новых выканаўцаў, павышэння ўзроўню выканаўчага майстэрства, паляпшэння мастацкага афармлення спектакля. Не заўсёды запрашэнне рэжысёраў і мастакоў з іншых тэатраў выклікаецца творчай неабходнасцю.

Фінансавыя органы ўстанавілі факты парушэння сметна-фінансавай дысцыпліны і непатрэбных затрат, завышэння аплаты запрошаных на разавыя спектаклі работнікаў, а таксама канцэртных выканаўцаў. У Беларускай дзяржаўнай філармоніі 165 артыстаў не выканалі планавай колькасці канцэртаў, але атрымалі гарантаваную аплату.

Калегія Міністэрства культуры прыняла пастанову, у якой прадугледжаны мерапрыемствы, накіраваныя на ліквідацыю недахопаў у фінансава-гаспадарчай дзейнасці тэатраў і канцэртных устаноў.

Аляксандр ДРАКАХРУСТ

# ПОЎНАЧ БЕЗ ЭКЗОТЫКІ

## ШОСТАЕ ПАЧУЦЦЁ

ПАВОЛЬНА, нібы нехаця, рухаецца ў чорнай, як туш, прасторы велізарны, асляпляльна-яркі прамень пражэктара. Здаецца, яшчэ імгненне—і ён прывычна накіруецца ў неба, як гэта столькі разоў бывала на фронце.

Але не, прамень тутэйшага пражэктара не спяшаецца ўзляцець у зеніт. Ён то паварочваецца да вострай, нібы каменны меч, скалы, то слізгае па шырокай, засыпанай цёмным вулканічным пяском «прыбойцы», то трывожна дрыжыць на крутых акіянскіх хвалях, раскідваючы па пенных грэбнях бязладныя ліловыя блікі.

Крыкне гагара, нібы прапалоскваючы вадой стомленае горла, пранізліва і рэзка заплача чайка, спалоханая нечаканым святлом,—і зноў цішыня. Толькі вялікая флюгарка на белым слупе, які выступае з цемры, усё ляскае і ляскае сваімі крыламі, быццам хоча паляцець у цёмную ноч, якая насоўваецца на зямлю і акіян.

Хвілінамі, калі доўгі прамень па-гаспадарску ўпэўнена мацае недзе на краі левага флангу, з назіральнай вышкі асабліва добра відаць два прыземістыя домікі заставы. У маленькіх падслепаватых вокнах — ні агеньчыка. І толькі праз вокны трэцяга асцярожна прабіваецца па-хатняму цёплае святло.

— Не спіць Света мая Іванаўна... Чакае...—глухаватым голасам гаворыць Васіль Фёдаравіч, начальнік заставы. Ён прывычна ўглядаецца з вышкі ў начную цемру. — Хутка дзесяць гадоў, як на граніцы, а ўсё непакоіцца... Такая ўжо яна ў мяне. Вось Танька —тая спіць. Яе час.

Так, бадай адзіным чалавекам на заставе, які спаў у гэту ноч, была маленькая Таня, пяцігадовая дачка начальніка, быстравокая, каротка астрыжаная дзяўчынка з высока ўскінутымі, нібы ад здзіўлення, броўкамі,—занесеная службай бацькі ў суровы і вечна насцярожаны свет дарослых.

Я ўяўляю сабе, як яна спіць, прыціскаючы любімых лялек, якіх яна называе мужчынскімі імёнамі («Ваня»—у страі, «Тарас»—у запасе), і нават у сне працягвае жыць тым, чым жыве тут кожны чалавек—граніцай, бо дзе ж ёй узяць іншыя ўражанні? Можа, пяшчотна ківае ёй галавой Ворлік—татаў конь—з вялікай белай плямай на лобе, або праносіцца міма славуты на тутэйшых заставах Махач, што ідзе шырокай размашыстай рыссю, або...

Ды ці мала што можа ўбачыць у сне маленькі пагранічнік, стаміўшыся за дзень?..

ТО УСПЫХВАЕ, то патухае, бударажачы ноч, велізарнае савінае вока пражэктара, і ў ліловым святле яго мудрагелістым і дзіўным выглядае навакольны свет.

Недзе па «прыбойцы» ідуць нарады, у густым алешніку, у непраходных зарасніках кедроўніку хаваюцца «сакрэты», па-пластунску, як людзі, паўзуць, нацягваючы павадкі, службовыя сабакі...

— Вось яна, наша рамантыка!...—нахіляецца да мяне Васіль Фёдаравіч.

О так! Усё гэта сапраўды вельмі рамантычна! Бо здаецца з самага ранняга дзяцінства столькі пачута, прачытана, убачана ў кіно і на сцэне аб далёкіх заставах, аб трывожных начах, аб сабаках, якія ідуць па свежым следзе...

Але што гэта? Ці мне здалося?

Не, памылкі быць не можа!

У голасе начальніка заставы яўна прагучала насмешлівая нотка.

— Смяяцеся, Васіль Фёдаравіч? Але чаго?.. У вашым жа жыцці, у службе, ва ўсім гэтым,—я ад пачуццяў, што перапоўнілі мяне, развёў рукамі, нібы імкнучыся абхапіць начны свет таямнічых гукаў, водбліскаў, абрысаў, — столькі незвычайнага, хвалюючага?

— Эх, таварыш маёр, таварыш маёр!—дакорліва прагаварыў ён, нахіляючы да мяне свой круглы абветраны твар, які ў цьмяным святле пераноснага ліхтара здаўся мне амаль цалкам зрэзаным маршчынамі.—Вы тут няпоўныя суткі, а я—пяты год. А да гэтага—яшчэ далей на поўначы служыць давялося... Вы бачыце толькі адзін бок нашага жыцця.—Начальнік замоўк, быццам прыслухоўваючыся да нечага. — А мы тут яго амаль не заўважаем. Пажывяце яшчэ — самі ўбачыце, не ў гэтым справа...

Васіль Фёдаравіч адчыніў люк і пачаў спрытна спускацца з вышкі па лесвіцы, якая прагіналася ад кожнага руху. Я палез за ім. І калі, нарэшце, не без цяжкасці дабраўся да зямлі, зноў пачуў яго глухаваты, з невялікай хрыпатой, голас:

— Ну, спіце спакойна! Мне трэба тут яшчэ сёе-тое паглядзець. А вы паглядзіце ўдзень... Без пражэктара яно лепш!

РАНЕНЬКА, калі крутабокія сопкі яшчэ не прарэзаліся праз туман, мяне разбудзіў звонкі галасок Тані.

— Дзядзя, хочаце, я вам свае заняткі на брусах пакажу? Хочаце?.. Я ўмею. Як салдаты.

У голасе была такая просьба, а блакітныя вочы на круглым тварыку з ускінутымі броўкамі глядзелі з такой надзеяй, што я тут жа ўскочыў, хутка адзеўся і наперагонкі з Таняй пабег на тое месца, якое тут гучна называлася спортгарадком.

Пазаймаўшыся ўдосталь на брусах і расказаўшы апошнія навіны («Казулін учора пісьмо атрымаў ад дзяўчыны, а Рэкс стаў кульгаць»), яна, як аб нечым звычайным і малацікавым, раптам паведаміла:

— А ўчора мішку забілі. Вунь ён у машыне ляжыць. Мама паспаць не дала, сказала: ідзі глядзець. А салдаты сказалі, што гэта не мішка, а яго жонка...

Таня не ўтойвала расчаравання. Яна зноў прапанавала:

— Дзядзя, хочаце, я яшчэ адно практыкаванне пакажу. На турніку...

Але я ўжо ішоў да машыны, якая спынілася на дарозе.

Там, у кузаве, сапраўды, ляжала вялікая чорная мядзведзіца. Яна, відаць, ліняла: футра было рэдкае і непрыгожае.

— Вось ён, учарашні парушальнік!—сказаў Васіль Фёдаравіч, падышоўшы да машыны.—На статак напаў. Зараз хлопцы прыйдуць, далажаць, як было...

Нарад, які змяніўся, не прымусіў сябе доўга чакаць. Да начальніка заставы падышоў цыбаты сяржант з карымі, крыху навыкаце, вачыма, і, старанна прыклаўшы далонь да брыля паношанай фуражкі, затараторыў:

— Таварыш старшы лейтэнант! Нарад вёў назіранне за морам, паветрам і навакольнай мясцовасцю... Ніякіх здарэнняў не было...

Словы гучалі завучана і прывычна. «Жалезная» формула даклада нязменная амаль заўсёды. Але мокрыя па грудзі гімнасцёркі і запырсканыя граззю твары сяржанта і яго спадарожнікаў гаварылі аб тым, што не такая ўжо гэта простая (няхай і прывычная!) справа — назіранне за морам, зямлёй і паветрам.

Я чакаў, што сяржант далажыць пра паядынак з мядзведзіцай. Я прагнуў падрабязнасцей.

Але Уладзімір Шышмароў (так звалі сяржанта) маўчаў.

— Раскажыце, як там у вас з мядзведзіцай атрымалася,—нібы адчуўшы маё нецярпенне, спытаў Васіль Фёдаравіч.

— Ды вось так, як я вам па тэлефоне дакладваў, таварыш старшы лейтэнант,—стомлена

Заканчэнне. Пачатак у нумары за 26 лістапада 1971 г.

---

ПЕРШЫ КАДР

# НАРАДЖЭННЕ КІНАЭПАПЕІ

## НА ЗДЫМКАХ ФІЛЬМА «ПАТОП»

На самай мяжы тарфянога балота каля вёскі Каменка Смалявіцкага раёна ўзнялася вышка. Над ёю — нязвыклых памераў парасон, які схаваў усталяваную кінакамеру і людзей, што згрудзіліся вакол. Але парывы шалёнага ветру забіраюцца пад парасон, кідаюць у твары прыгаршчы ўедлівага, як шрот, восеньскага дажджу. Усё гатова, каб зрабіць самыя першыя кадры чатырохсерыйнага фільма «Патоп», які ставіцца польскімі кінематаграфістамі пры дапамозе студыі «Беларусьфільм» па другой частцы папулярнай гістарычнай трылогіі Генрыха Сянкевіча. Але здымаць пакуль нельга. Трэба, каб хоць трошачкі спыніўся патоп з неба, хоць трошкі пасвятлела...

Каля двухсот чалавек зараз напружана чакаюць гэтага моманту ў машынах і ля вогнішча. Каля агню сабраліся беларускія і польскія мастакі, асвятляльнікі, грымёры, касцюмеры, піратэхнікі, рабочыя саўгаса «Смалявіцкае», артысты масоўкі — жыхары Мінска, Смалявіч, вёскі Каменка, апранутыя і загрыміраваныя сялянамі XVII стагоддзя, артысты з тэатраў імя Я. Купалы, юнага гледача, студэнты Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, навучэнцы Рэспубліканскай конна-спартыўнай школы ў Ратамцы. Ідзе нетаропкая агульная размова без перакладчыкаў.

Чалавек, які адважыўся перанесці на экран класічны раман Г. Сянкевіча, — рэжысёр Ежы Гофман. Чорныя акуляры, маленькая бародка, кажушок, падперазаны армейскім рамянём. Чорныя акуляры ён амаль ніколі не здымае, па-мойму, каб не заўважалі, якія ў яго стомленыя вочы.

— Што б я ні ставіў, — гаворыць Е. Гофман, — кінастужку пра сваіх сучаснікаў ці гістарычную карціну, імкнуся рабіць такія фільмы, якія б захаплялі, хвалявалі, выхоўвалі. Я цвёрда ведаю, што не маю ніякага права траціць дзяржаўныя сродкі на кінастужку, якая будзе ісці ў паўпустой зале...

Пасля сканчэння Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве Гофман стварыў 27 дакументальных кінакарцін, многія з якіх атрымалі прэміі на міжнародных кінафестывалях. Мастацкія фільмы, якія ён здымаў разам з Э. Скужэўскім — «Гангстэры і філантропы», «Закон і кулак», «Тры крокі па зямлі» — прынеслі польскай кінематаграфіі міжнародны поспех. Асабліва гэта датычыцца двухсерыйнай кінаэпапеі па рамане Г. Сянкевіча «Пан Валадыеўскі», якая дэманстравалася ва ўсіх сацыялістычных краінах і закуплена пракатнымі фірмамі ўсіх кантынентаў.



У ролі Маці народная артыстка БССР Стэфанія Станюта.

Галоўнае, лічыць Гофман, каб кожны член здымачнай групы разумеў, што ён тут неабходны, мае прамое дачыненне да стварэння кінатвора. Я быў сведкам, як намеснік дырэктара карціны Фёдар Нячаеў выказваў рэжысёру свой асабісты, даволі спрэчны, пункт гледжання на адну са сцэн будучага фільма. Ежы Гофман доўга і цярпліва пераконваў Нячаева. Гэта быў, дарэчы, бліскучы экскурс у гісторыю феадальна-прыгоннай Рэчы Паспалітай сярэдзіны XVII стагоддзя, якая з-за ганебнай капітуляцыі пануючага класа амаль уся была акупіравана шведскімі захопнікамі, і толькі «дубіна народнай вайны» здолела перамагчы непераможную шведскую армію. «Калі б не стаў кінематаграфістам, — гаварыў мне Гофман,—быў бы гісторыкам. Абавязкова...»

А колькі папулярных, надзвычай цікавых людзей розных прафесій кінарэжысёр аб'яднаў у адзін дружны калектыў! Самы непрыкметны, самы скупы на словы — галоўны апературатар Ежы Вуйцык. Але калі ведаць, што гэта менавіта ён здымаў сусветна вядомыя фільмы «Попел і алмаз», «Самсон» з рэжысёрам А. Вайдам, «Маці Іаанна ад анёлаў» і «Фараон» з Е. Каваляровічам, дык пачнеш мімаволі хадзіць за ім следам, каб разгадаць сакрэты яго цудадзейнай камеры. У галоўных ролях будуць здымацца выдатныя польскія акцёры Тадэвуш Ламніцкі (Валадыеўскі) і Даніель Ольбрыхскі (Кміціца).

Недалёка ад вогнішча спыніўся «газік», і з яго сыпанулі дзяўчаты ў стракатых касцюмах. Не іначай гэта «пацунелькі». Як там у Сянкевіча: «Гаштоўты жылі ў Пацунелях: дзяўчаты іх славіліся сваёй прыгажосцю, так што ўрэшце ўсіх прыгажунь у ваколіцы сталі зваць «пацунелькамі»... Калі чародкай ішлі ў касцёл, ну проста табе кветкі на лузе!» І зараз на здымачнай пляцоўцы зноў з'явіліся тыя самыя кветкі... Знаёмлюся з актрысамі Іялантай Лотэ, Эвай Шыкульскай, Ганнай Сянюк (не так даўно мы маглі ацаніць яе высокае выканаўчае майстэрства ў фільме «Лялька» па рамане Б. Пруса, дзе яна стварыла вобраз Магдаленкі). Апошняй была Малгажата Дзіпонт, спецыяльны карэспандэнт газеты «Жыце Варшавы». А я быў упэўнены, што гэта актрыса. Прыемная памылка...

Бачу знаёмы твар народнай артысткі БССР Стэфаніі Станюты. Роля ў яе эпізадычная: трэба за некалькі хвілін стварыць на экране трагічны вобраз маці, якая доўгія гады чакае сына з вайны, шукае яго сярод коннікаў і не знаходзіць ні ў сядле, ні на насілках, і разумее, нарэшце, што ўжо ніколі не дачакаецца. Стэфанія Міхайлаўна распытвае ў асістэнтаў рэжысёра ўсе падрабязнасці пра сваю гераіню. Потым на рэпетыцыі Ежы Гофман расказваў і паказваў Станюце, як ён разумее яе ролю. А вядомай беларускай актрысе ўсё мала. Яна і ў мяне пытаецца, ці так выглядаць павінна?



Здымаецца першы кадр... Ля кінакамеры стаяць (злева направа) Ежы Гофман і Ежы Вуйцык. На першым плане асістэнт аператара Яўген Гаўрысяк і другі аператар Францішак Кендзелка.

# НА ПАЧАТКУ ЧАЦВЁРТАГА

АДКРЫВАЮЧЫ новы — чацвёрты — сезон, Мінскі камерны аркестр даў канцэрт з цыкла «Музычныя партрэты». На афішы — заўсёды хвалюючае імя Дзмітрыя Шастаковіча.

Пасля першых гукаў Сімфаньеты ў зале ўсталявалася атмасфера еднасці паміж музыкантамі і аўдыторыяй. Гэта тым больш радасна, што праграма вечара была вельмі складаная. Не толькі з-за чыста тэхнічных цяжкасцей Канцэрта для фартэпіяна, трубы і струнных (1933 г.), Сімфаньеты (пераклад для струннага аркестра Восьмага квартэта, 1960 г.) і Чатырнаццатай сімфоніі. Пастаўленыя побач і выкананыя разам, гэтыя творы надаюць праграме кантрастнасць і па вобразным адлюстраванні свету, і па мастацкай палітры. Ад аркестра ў такім выпадку патрабуецца не толькі ўменне быць на ўзроўні высокіх выканаўчых задач, а і здольнасць «пераўвасабляцца», авалодваць «гукавой матэрыяй» як сродкам выказвання. Наш Камерны пад кіраўніцтвам Юрыя Цырука спраўляўся з многімі цяжкасцямі паспяхова, што сведчыць пра яго прафесійнае станаўленне і працавітасць, пра мэтанакіраванае творчае жыццё калектыву. Тое, што яму яшчэ нестае вопыту, — не дакор маладому ансамблю.

**Калі ж гаварыць пра вобразна-выяўленчую плынь праслуханай намі музыкі, то тут прызнаць усё дастаткова пераканаўчым, на жаль, пакуль што нельга. Прычына не адна, і яны даволі супярэчлівыя. Агульнае ўражанне слухачоў — найбольш паспяхова выконвалася 14 сімфонія, самы буйны і значны па ідэйна-мастацкім змесце твор трагедыйнага гучання. Яна ўзрушае не толькі тых, хто любіць музыку маштабных паглыбленняў у духоўныя пошукі чалавека і роздум пра свет: яна адрасавана ўсім. Мабыць, гэтаму спрые с л о в а ў ёй — слова паэтычнае, яркае, трапяткое.**

Камерны аркестр на гэтым канцэрце выконваў Сімфонію шосты раз. Аўдыторыя адчувала, як усё больш упэўнена і свабодна «вымаўляецца» ансамблем натхнёная музыка выдатнага кампазітара сучаснасці. Эмацыянальна і тэмпераментна прагучала неўтаймоўная па настроі «Малагеньня»; з'едліва саркастычны «Адказ запарожцаў канстанцінопальскаму султану» быў захапляючы; урачысты і трапяткі маналог «О, Дэльвіг, Дэльвіг...» у добрым сэнсе слова «здзіўляў» сваёй пранікнёнай інтэлектуальнай сілай... Аркестр раскрываў багацце фарбаў і інтанацый у драматызме інструментальных «рэплік» у «Ларэлеі» і ў «Мадам, паглядзіце...» Поспех вызначалі і салісты — Маргарыта Мірошнікава і Сяргей Машкоў. Спявачка гранічна дакладна перадавала інтанацыйнае багацце і наогул вакальнае характво кожнага з нумароў, якія, па сутнасці, успрымаліся партрэтамі жанчын у розных эмацыянальных станах, мастацкімі вобразамі.

Філасофічны і тужлівы лад Восьмага квартэта, прысвечанага Д. Шастаковічам памяці ахвяр фашызму і вайны, таксама захапіў залу. У творы ўгадваюцца аўтабіяграфічныя матывы — кампазітар і тут праносіць нешта істотнае для яго як чалавека, мастака і грамадзяніна.

**На нашу думку, партыя кантрабаса, уведзеная ў струнны ансамбль, як і агульнае гучанне твора, перадаваліся аркестрам нарэктна, з адчуваннем своеасаблівасці гэтай пранікнёнай і мужнай музыкі. Захавана і выразнае сола віяланчэлі (напрыклад, цудоўна праспявана пяшчотная фраза з «Кацярыны Ізмайлавай» у IV частцы)...**

**Наогул Сімфаньета выглядае старанна падрыхтаванай аркестрам і памастацку самастойна асэнсаваным творам. Праўда, усё яшчэ адчуваеш заклапочанасць артыстаў і дырыжора першапачатковымі тэхнічнымі задачамі, пераадольваннем іх у працэсе музіцыравання. Нестае гнуткасці, тэмбравага багацця і разнастайнасці і, зрэшты, звычайнага характва. Па форме гэта музыка, якая разгортваецца павольна, павінна набыць больш натуральнае гучанне. Прынамсі, стараннасці аркестра слухач «улоўліваць» не павінен.**

Непасрэдна і неяк радасна сустрэла публіка Канцэрт для фартэпіяна, трубы і струннага аркестра. Не верыцца, што сорак гадоў назад гэты твор выклікаў скептычныя адносіны. Як па-юнацку весела смяецца тут Шастаковіч! Якія пераменлівыя маскі смешнага праходзяць перад намі! То імкліва галапіруе, то элегічна танчэе ў чуллівым рамансе, то гарэзліва жартуе ў факстроце — і трымае слухача ў асаблівым настроі светлая і нават прасветленая па характары музыка арыгінальнага знаўцы жыцця. Аўтар нафантазіраваў шэраг «атракцыёнаў», сэнс якіх — раскрыць радасць жыцця ў рытмах і інтанацыях сучаснага яму музычнага побыту (джаз, аперэта, цырк, нямое кіно). Праз прызму эксцэнтрыкі Шастаковіч «чуе» тут і класіку — драматычную лірыку Баха, гумар Гайдна і Бетховена... Асабліва поўна перададзены гэтыя якасці твора піяністам Міхаілам Васкрасенскім, які артыстычна зразумеў сэнс знешне алагічных і таму ўдвая смешных «перабівак», скажам, названай вышэй лірыкі і звычайнага бытавога тапёрства. Майстэрства яго выканання партыі фартэпіяна бездакорнае!

**Аркестр у гэтым нумары праграмы іграў дастаткова дакладна. Але калі б акампанемент тут быў т о л ь к і сумай тонка разлічаных суправаджэнняў!.. Партыя трубы (артыст В. Волкаў) сыграна старанна, але не ў адпаведнай партытуры эмацыянальна-вобразнай танальнасці, якую так добра падтрымліваў піяніст. Мабыць усе мы ў зале «чулі» гэту неадпаведнасць разам з М. Васкрасенскім. Шкада! З цягам часу, мусіць, аркестр ва ўсіх партыях знойдзе сапраўдную свабоду выканання і наблізіцца да патрэбных тэмпаў у фінале, дзе чакаеш заканамернага паскарэння, а яго і не было...**

МУШУ падкрэсліць, што тыя заўвагі, што робяцца ў маім водгуку на канцэрт, як і не названыя мной недахопы, не заміналі слухачам адчуць перспектыву творчага росту, на які здатны калектыў. Кіраўнік аркестра дзейсны шукальнік ва ўсім — ад адкрыцця нотнага матэрыялу да рэкламы. Аднак засяродзіцца яму варта перш-наперш на творчых праблемах. Аднаму Ю. Цыруку, які бы здольным ён ні быў, усё вырашыць не так лёгка. Што я маю на ўвазе? Аркестр не ўсталяваўся яшчэ ў сваім складзе (у часе канцэрта мы зразумелі, якая гэта страта для ансамбля — адсутнасць добра зрэпеціраваных першых скрыпак і альтоў). Не лепшыя і інструменты ў артыстаў. Гэтага не схаваеш самым старанным выкананнем. Добрая работа павінна быць я к а с н а й ва ўсіх кампанентах. Складаныя творчыя задачы, якія бярэ на сябе Мінскі камерны, пацвярджаюць неабходнасць сталай увагі да яго і філарманічнага кіраўніцтва і крытыкі.

**Т. ШЧАРБАКОВА.**

# Янчанка іграе Баха

ДРУГІ ГОД працягваюцца канцэрты Алега Янчанкі «Усе арганныя творы Баха». Абанементы даўно прададзены, на кожным канцэрце ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі поўна слухачоў, пераважна моладзі.

Чым растлумачыць гэтую цікавасць да музыкі геніяльнага нямецкага кампазітара?

Як вядома, пры жыцці Баха цанілі больш як цудоўнага арганіста, чым як арыгінальнага кампазітара. А пасля смерці яго імя і творы на многія гады забылі. Нават высокакваліфікаваныя музыканты на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў ведалі толькі некалькі твораў з велізарнай спадчыны кампазітара.

Першае «адраджэнне» Баха адбылося ў XIX стагоддзі. У 1802 годзе выйшла з друку невялікая, усяго на 70 старонак, біяграфія Баха; яе напісаў нямецкі музыказнаўца І. Форкель. У 1829 годзе адбылося ў Берліне пад кіраўніцтвам Ф. Мендэльсона першае публічнае канцэртнае выкананне «Страсцей па Матфеі», аднаго з найбольш значных твораў Баха. Гэта было пачаткам жыцця многіх твораў кампазітара на вялікай канцэртнай эстрадзе. У 1850 годзе было створана ў Германіі «Бахаўскае таварыства», якое апублікавала ўсе творы Баха. Апошні, 46 том збору твораў убачыў свет у 1900 годзе. Так паступова чалавецтва знаёмілася з Бахам, і імя яго было справядліва далучана да бессмяротных...

Аднак і пасля гэтага многія творы Баха, асабліва яго фугі, лічыліся не больш, як зборам мудрагелістых поліфанічных практыкаванняў, музыкай «сухой і вучонай».

У наш час, як мне здаецца, адбылося другое «адраджэнне» Баха. Яго ўплыў адчуваецца ў творчасці кампазітараў, якія шырока выкарыстоўваюць і поліфанічныя прыёмы кампазіцыі, і характэрныя бахаўскія інтанацыі; сустракаюцца гэтыя інтанацыі не толькі ў сімфанічных і камерна-інструментальных творах, але нават у сучасных масавых песнях і эстраднай музыцы.

Пра другое «адраджэнне» Баха гаворыць і тая цікавасць, якую праяўляюць да ўсіх жанраў яго музыкі слухачы. Музыка Баха прыцягвае перш за ўсё сваёй псіхалагічнай глыбінёй, высокімі маральна-этычнымі якасцямі, шчырасцю, чысцінёй і высакароднасцю пачуццяў.

Цікавасць да канцэртаў «Увесь арганны Бах» заключана, відаць, яшчэ і ў самім інструменце. Арганныя канцэрты былі ў нашай краіне ў мінулым вельмі рэдкія, таму што мала было канцэртных арганаў і выканаўцаў. У апошнія гады становішча змянілася. З кансерваторскіх класаў выйшла цэлая плеяда маладых таленавітых арганістаў, і ім ёсць дзе выступаць?

І яшчэ адна з галоўных «сіл прыцягнення» на гэтыя канцэрты — выканаўца Алег Янчанка. Гэты таленавіты музыкант з'явіўся ў Мінску гадоў дзесяць назад, якраз тады, калі была адкрыта філарманічная канцэртная зала з новым арганам. За мінулыя гады Алег Янчанка — натура багатая і рознабакова адораная — вельмі арганічна «ўпісаўся» ў карціну музычнага жыцця Мінска. Янчанку палюбіла моладзь. Гэта тым больш прыемна, што гаворка ідзе пра музыканта з вельмі сур'ёзнымі творчымі імкненнямі.

Янчанка - арганіст (мы ведаем яго і як здольнага кампазітара, але пра гэта сёння не ідзе гаворка) гастраляваў у многіх гарадах Савецкага Саюза і за рубяжом. Рэпертуар яго разнастайны. Але асабліва ахвотна звяртаецца Янчанка да твораў класіка арганнай музыкі Баха. Невыпадкова на Міжнародным конкурсе арганістаў імя Баха ў Лейпцыгу — горадзе, дзе вялікі кампазітар многія гады быў кантарам-арганістам царквы святога Фамы, А. Янчанка быў удастоены дыплома.

Цыкл канцэртаў «Усе арганныя творы Баха» — з'ява унікальная. Нават у такіх «арганных» краінах, як Італія, Францыя, Аўстрыя, Германія, ні адзін арганіст не адважваўся на такі цяжкі творчы подзвіг. Сапраўдны подзвіг. Спіс арганных твораў Баха вельмі вялікі: харальныя прэлюдыі і цыклы тыпу «прэлюдыя і фуга», партыты, санаты, канцэрты (арганныя пералажэнні аркестравых канцэртаў Вівальдзі і іншых кампазітараў), фантазіі, такаты, фугі, арганная мша, пасакалля, педальныя эсцюды, маленькі гарманічны лабірынт, канцона, пастараль і г. д.

Увесь гэты неабдымны матэрыял трэба было ўкласці ў 15 канцэртных праграм. Ні храналагічны прынцып (даты стварэння цэлага раду твораў невядомыя), ні жанравы тут не падыходзілі. Трэба было ўсе творы размеркаваць так, каб кожная праграма мела сваю «драматургію». Мяркуючы па канцэртах, якія ўжо адбыліся, Янчанку гэта ўдалося.

Пэўныя цяжкасці ўзніклі перад А. Янчанкам у сувязі з тым, што наш філарманічны арган хоць і вельмі добры інструмент, але не «бахаўскі». У ім многа сучасных тэхнічных і рэгістравых удасканаленняў. І вельмі цяжка арганісту ўстрымацца ад таго, каб не карыстацца імі, знайсці толькі тыя фарбы і прыёмы, якія ў найбольшай ступені адпавядаюць характару бахаўскай музыкі і традыцыям яе выканання, ідуць ад практыкі самога Баха-арганіста. Невыпадкова сучасныя нямецкія музыканты імкнуцца іграць Баха на арганах, пабудаваных праслаўленым майстрам Готфрыдам Зільберманам — сучаснікам Баха. Алег Янчанка, якому давялося іграць на зільберманаўскіх інструментах, выкарыстоўвае свой вопыт і пры ігры на мінскім аргане.

Падумаем, нарэшце, і аб тым, колькі гадзін трэба было правесці за кафедрай аргана, каб не толькі асвоіць тэхнічна, але і знайсці выканаўчую канцэпцыю такой вялікай колькасці твораў. Бо Бах, як гэта было ўласціва кампазітарам яго эпохі, быў вельмі скупы на абазначэнні тэмпу, дынамікі, нюансаў, рэгістроўкі. Тут многае павінен зрабіць сам выканаўца.

Нядаўна адбыўся дзесяты канцэрт цыкла. У яго праграме — дзве прэлюдыі і фугі, саната, 12 харальных прэлюдый і некалькі асобных п'ес. Праграма разнастайная. У ёй яшчэ раз праявіліся прывабныя рысы Янчанкі-арганіста. Трэба адзначыць яго высокую мануальную і педальную тэхніку, уменне пластычна ляпіць буйную форму. Для прэлюдый і, асабліва, фуг Баха гэта вельмі патрэбна. Бо тут выканаўцу падпільноўвае небяспека «патануць» у аморфным гукавым патоку. Наш арганіст, умела рэгіструючы тэматычныя і распрацовачныя эпізоды, ужываючы і іншыя прыёмы, робіць форму фугі, якая разгортваецца ў жывым руху, рэльефнай і канструктыўна дакладнай.

Фантазію і майстэрства рэгістроўкі, г. зн. выбару з багатай палітры, закладзенай у тысячах труб і дзесятках рэгістраў аргана, тых чыстых або змешаных фарбаў, якія патрэбны менавіта для гэтага твора, праявіў Янчанка пры выкананні харальных прэлюдый. Нялёгкая гэта задача — выканаць запар 12 розных харалаў і знайсці для кожнага свой рэгістравы ключ. Вырашыў арганіст сваю задачу пераканаўча, з тонкім густам.

Нельга, нарэшце, не сказаць аб высокай культуры музіцыравання, уласцівай Янчанку, аб той атмасферы даверлівага кантакту са слухачамі, якую таленавіты артыст стварае.

Звыш праграмы Янчанка выканаў бахаўскую арганную транскрыпцыю славутага ля-мінорнага канцэрта Вівальдзі, якая ўжо гучала ў адным з мінулых канцэртаў.

Пройдзены дзве трэці шляху. Сыграны дзесяць канцэртаў. Наперадзе яшчэ пяць. Але ўжо можна выказаць упэўненасць, што фундаментальная праца будзе паспяхова завершана.

**Л. АЎЭРБАХ.**




**ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»**

**Р. Барадулін. Ай! Не буду! Не хачу!** Вершы для маленькіх. На рускай мове. Мастак Б. Забораў. 1971 г. Тыраж 50000 экз. 32 стар. Цана 17 кап.

**М. Гарулёў. Нашчадкі.** П'есы. Вокладка мастака М. Шырокава. На рускай мове. 1971 г. Тыраж 3500 экз. 216 стар. Цана 35 кап.

**Л. Дробаў. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.** Літаратурная апрацоўка У. Караткевіча. Мастак С. Кавалёў. 1971 г. Тыраж 5800 экз. 110 стар. Цана 1 руб. 31 кап.

**М. Лынькоў. Міколка-паравоз.** Аповесць. Малюнкі А. Волкава. 1971 г. Тыраж 35000 экз. 184 стар. Цана 76 кап.

**І. Навуменка. Тая самая зямля.** Апавяданні і аповесць. Мастак Б. Забораў. 1971 г. Тыраж 10000 экз. 208 стар. Цана 36 кап.

**М. Някрасаў. Лірыка.** (Серыя «Паэзія народаў СССР»). Укладальнік А. Лойка. Вокладка П. Калініна. 1971 г. Тыраж 4500 экз. 136 стар. Цана 20 кап.

**ВЫДАВЕЦТВА «НАРОДНАЯ АСВЕТА»**

**А. Герцэн. Былое і думы.** Школьная бібліятэка. Афармленне Л. Лобан. На рускай мове. 1971 г. Тыраж 250000 экз. 552 стар. Цана 1 руб. 33 кап.

**Мы Леніна любім.** Зборнік апавяданняў, вершаў і песень пра У. І. Леніна. Складальнікі С. Альхімовіч, А. Бараноўская, В. Рэгель. Мастак У. Круглоў. На рускай мове. 1971 г. Тыраж 29000 экз. 112 стар. Цана 29 кап.

**В. Сухамлінскі. Блакітныя жураўлі.** Апавяданні і казкі. Пераклад з украінскай мовы В. Віткі. Мастак Г. Грак. 1971 г. Тыраж 22000 экз. 80 стар. Цана 14 кап.

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Хведару Чэрню з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

## З СІВЫХ ПАДАННЯЎ...

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА



— Во-о-ось такая з гарпуна сарвалася...



Р. ЛАЗУРКІН

## МІМАХОДЗЬ

□ *Мог звярнуць горы, ды баяўся заваліць сябе абломкамі.*

□ *Прапанаваў праект канторы з круглымі пакоямі — каб супрацоўнікі не маглі снавдацца з кута ў кут.*

□ *Толькі адна катэгорыя людзей сваімі рукамі робіць сабе помнікі: скульптары. У іх гэта называецца аўтапартрэтамі.*

П. САКОВІЧ

□ *З усіх вяселляў ювелір прызнаваў толькі адны — залатыя.*

□ *У зале чакання сядзелі толькі транзістарныя пасажыры.*

□ *Для пайнаты шчасця дзвярам не хапала аднаго — залезці ў петлі.*

□ *Ён спачатку завальваў работу, а потым валіў усё з хворай галавы на здаровую.*

□ *На думку пеўня, усе зерні — рацыянальныя.*

□ *Халадзільнік думаў, што менна ён робіць надвор'е.*

□ *Скажы мне, хто я, і я скажу табе, хто ты.*

Змітро БЯСПАЛЫ

## ПА-ДА-РУНАК

Ціхан збіраўся ў вёску —да маці ў госці. «Куплю ёй падарунак», — падумаў ён і пайшоў у цэнтральны універмаг.

Але, відаць, лягчэй выбраць сабе дзяўчыну ў жонкі, чым падарунак у велізарным магазіне, дзе розных рэчаў — тысячы, калі не мільёны. Доўга ён стаяў у аддзеле гатовага адзення і разглядаў сукенкі, паліто: то дорага каштавала, то... колер не падабаўся. Пабываў у аддзеле парфумаў, але таксама нічога не падабраў, бо меркаваў, што вясковай жанчыне не да пудры і духоў. Таптаўся ў аддзеле абутку. Вельмі прыдзірліва разглядаў боты, туфлі, але зноў-такі разважаў: «А што калі куплю, грошы ўбухаю, ды яшчэ памер не падыдзе?.. Якая ж радасць ад такога падарунка... З аддзела абутку накіраваўся ў аддзел тканін. Тут аж вочы разбягаліся. Чаго толькі не было: і сукно, і паркаль, і драп, і нейлон... А колькі колераў — не пералічыць! Доўга ён мацаў тканіны, прыкідваў, колькі каштуе, якую выгадна было б узяць: квяцістую, чорную ці сінюю...

І тут да Ціхана падышоў знаёмы.

— Што ты тут робіш?

— У госці да маці еду, падарунак хачу купіць, толькі вось не дабяру, які.

Знаёмы пільна пагледзеў на Ціхана і раптам насмешліва падміргнуў:

— Нічога, ёсць выхад: твой прыезд да маці будзе найлепшым падарункам...

Ціхан аж заўсміхаўся ад неспадзяванкі.

— Ай, праўду ты кажаш, дзякую за параду, — хуценька сказаў ён і выскачыў з універмага.

А. АЛЯКСЕЙЧЫК

## МІЛЫ ЧАЛАВЕК

Калі ў тралейбус уваходзіць бабулька ці прыгожая дзяўчына, ён заўсёды саступіць месца. Ён заўсёды дапаможа старому перайсці вуліцу. Ён лепей спозніцца на работу, але правядзе да гасцініцы чалавека, не знаёмага з горадам. Жанчыны на рабоце атрымліваюць на свята ад яго кветкі. У чарзе ён прапускае жанчыну наперад. Ніколі не забудзе падзякаваць афіцыянту, прадаўцу, нават кандуктару.

І вось ён прыходзіць дадому, а жонка чамусьці незадаволена — гаворыць, што ад яго ўжо колькі гадоў ніводнага ласкавага слова не пачуеш. І грубы ён, і ніколі не дапамагае...

А ён ляжыць сабе на тахце і сумна думае: «Што ж гэта робіцца! Я ж у дзве змены не магу працаваць! Хоць бы дома я магу быць такім, як мне хочацца? Што за жыццё?».

Марцін КОЎЗКІ

## ФРАЗЫ

Не раскідвайся: дзве кропкі можна злучыць адной прамой лініяй, тры—ніяк.

□

Нехта ж першы сказаў: «Волга ўпадае ў Каспійскае мора».

□

У таго медаля адваротны бок парадны.

□

Не ўсё дадатнае — станоўчае. Плюсам можна і перакрэсліць.

□

Сімвал веры: ключ ад кватэры.

□

Найглыбейшае мора тое, што па калені.

Расэл БЕЙКЕР




Многіх амерыканцаў страшэнна ўразіла нядаўняе паведамленне друку, што за амерыканскімі грамадзянамі наладжана павальная сочка. Многіх уразіла, але, трэба прызнацца, не ўсіх: у нашым квартале Вашынгтона, здаецца, амаль кожны займаецца шпіёнскім бізнесам ці, як мы гаварылі ў маленстве, гульнёй у «сышчыкаў і разбойнікаў».

Іншы раз у нас здараюцца нават драматычныя сітуацыі. Вазьміце, напрыклад, выпадак з Паркінсам. Паркінс, сакрэтны агент адной вядомай федэральнай установы, займаецца падслухоўваннем тэлефонных размоў, пра што, безумоўна, ніхто нічога не чуў і не ведае.

Сядзіць ён, значыцца, аднаго разу на тэлефонным слупе і спрабуе даўмецца, чаму апарат падслухоўвання, падключаны да тэлефона суседа Суіні, нічога не рэгіструе, апрача птушынага цвыркання. І раптам Паркінс бачыць самога Суіні: той крадком прабіраецца на яго, Паркінса, двор, шыбуе да сметніка і пачынае лічыць пустыя бутэлькі з-пад піва і віскі. Ага, значыцца, Суіні завербаваўся агентам у адно славутае бюро, якое займаецца вызначэннем крэдытаздольнасці асоб, западозраных якраз у адваротным!

Каб на той момант у Паркінса ўжо былі якія-небудзь важныя звесткі пра Суіні, яны, вядома, паладзілі б між сабой, але, як на грэх, з гэтай праклятай шпіёнскай прыстаўкі цалюткі дзень чуліся толькі птушыныя галасы... Хочаш—не хочаш, давялося Паркінсу ісці на паклон да міс Алісы, што жыве па-суседстве. А вы павінны ведаць, між іншым, што Аліса гэтая — капрал армейскай разведкі. Пра ўсіх Паркінс дазнаўся, дзякуючы сваёй тэхніцы падслухоўвання, але даў сабе слова не выдаваць гэтай таямніцы Мэзану, што жыве на самым рагу і для ўсеагульнага аб'яднання страхавых таварыстваў падслухоўвае размовы ў цырквах, бальнічных прыёмных, грамадскіх лазнях і таму падобных месцах.

Як бы там ні было, але Паркінс папрасіў Алісу прымусіць Суіні трымаць язык за зубамі наконт тых бутэлек. А якраз у той дзень Аліса, пераапранутая афіцыянткай, падносіла біфштэкс з півам Суіні, калі ён вечарком прыйшоў у кафэ «Дрозд» падсілкавацца разам з Арчыбальдам—той жыве насупраць і працуе на адну федэральную разведвальную ўстанову пад маркай журналіста — прыкідваецца, што бярэ ў людзей інтэрв'ю.

Падыходзіць, значыцца, Аліса да іхняга століка і раптам спатыкаецца. Суіні тут жа здагадваецца, хто ёсць хто.

— Прыкусі на момант язык,— папярэджвае ён Арчыбальда.—Гэта не афіцыянтка, а Аліса—капрал армейскага шпіянажу. Уяві сабе: за адзін толькі тыдзень я налічыў у яе трынаццаць пустых пляшак!

Позірк Арчыбальда загарэўся глыбокай павагай да Алісы, а познім вечарам ён звоніць ёй па тэлефоне:

— Я сёння да вас завітаю на хвілінку: у мяне ёсць сёе-тое цікавенькае.

А ў яго, бачыце, была магнітафонная плёнка з запісам апошняй гутаркі Паркінса з псіхіятрам.

Паркінс падслухаў тэлефонную размову паміж Арчыбальдам і Алісай і, не памятаючы сябе ад злосці, прабраўся ў спальню Алісы і прытаіўся за парцьерай. Прыходзіць Арчыбальд. Толькі Паркінс паспеў узяць яго на мушку свайго рэвальвера, як раптам у кадры з'явіўся Суіні з бутэлькай джыну пад пахай.

На шчасце, Аліса своечасова папярэдзіла свайго армейскага шэфа: за другой парцьерай хаваўся цэлы пяхотны ўзвод, салдаты лёгенька абяззброілі Паркінса, а потым праверылі, ці не схавана ў джыне якое-небудзь сакрэтнае данясенне, напісанае сімпатычным чарнілам. Было праверана ўсё да апошняй кроплі—без усякіх вынікаў. Праўда, у Арчыбальда быў канфіскаваны мініяцюрны мікрафончык, які ён не паспеў падсунуць пад капральскія нашыўкі мундзіра Алісы.

Хіба гэта не драматычны збег падзей у наша такое празаічнае XX стагоддзе?

З англійскай пераклаў Сямён ДОРСКІ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 02518